# Тыднёвік Магілёўскі




№ 13 (128) 28 верасьня – 4 кастрычніка 2001 г. Кошт 80 руб.


## Пакуль ёсьць Памяць, жыве Народ...





Фота IREX

***Сябры магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў", рэдакцыя газэты "Тыднёвік Магілёўскі" выказваюць абурэньне з нагоды дзеяньняў менскіх уладаў па "пашырэньні кальцавой дарогі" вакол сталіцы. У прынятай 27-га верасьня Заяве гаворыцца:***

***"Мы заяўляем, што ліквідацыя Курапатаў – памятнага месца, дзе савецкі НКВД расстраляў тысячы беларусаў, ёсьць антычалавечым, антыхрысьціянскім актам.***

***...У свой час, па віне ўлады краіны, не ўдалося стварыць у Курапатах беларускі мэмарыяльны комплекс. Знак адпаведнага зьместу быў падараваны Менску прэзыдэнтам Білам Клінтанам ад імя амэрыканскага народу. Аднак нядаўна ён падвергся разбурэньню. Усьлед распачалося "пашырэньне кальцавой дарогі". Яшчэ раней знайшліся ангажаваныя ўладай гісторыкі, што ў чарговы раз у найноўшай гісторыі паставілі пад неабгрунтаваны сумнеў паходжаньне безымяных магілак ва ўрочышчы Курапаты...***

***Усё разам ізноў прыводзіць да таго, што й цяпер знаходзяцца людзі, якім трэба тлумачыць нанова, што гэта за месца – Курапаты. Хоць немагчыма зразумець, як гэтыя самыя людзі, якія ёсьць грамадзянамі Беларусі, дазваляюць сабе ня ведаць пра Курапаты. Ня ведаць пра наш магілёўскі кар'ер (насупраць мясакамбінату), дзе толькі дзякуючы выключнай настойлівасьці мясцовых дэмакратаў першай хвалі быў усталяваны памятны Крыж...***

***Можна моўчкі жахацца той глыбіні маральнага падзеньня, на якой знаходзіцца кіруючы сёньня рэжым. Але можна – і трэба! – нават у гэтых абставінах нешта рэальнае рабіць, каб ня страціць назаўсёды сваіх душаў і памяці пра папярэднія бацькоўскія пакаленьні.***

***Мы выказваем салідарнасьць з усімі, хто зараз змагаецца, каб захаваць сьвятыя магілкі ў Курапатах. Мы заклікаем усіх беларусаў адкрыта далучыцца да Боскай справы абароны Сьвятога месца народнай памяці, болі й пакаяньня".***

* * *

*Падаем кроніку падзеяў вакол Курапатаў за апошнія некалькі дзён. Вось што паведамлялі адтуль карэспандэнты радыё "Свабода"* **Ганна СОУСЬ і Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*Цяпер ва ўрочышчы ўвесь час трымаюць варту прадстаўнікі Маладога Фронту, якія не дазваляюць будаўнікам працаваць на тэрыторыі Курапатаў.*

*Калі я раніцай прыехала ў Курапаты, там было ўжо некалькі дзясяткаў чалавек. Гарэла вогнішча. Паболела драўляных крыжоў, якімі перакрываюць дарогу будаўнікам. Наладжаны намёт для таго, каб у ім начаваць. Павал Севярынец, лідэр МФ, паведаміў, што ўначы было спакойна. Недзе а восьмай гадзіне пад'ехаў трактар, падыйшлі некалькі рабочых. Але маладафронтаўцы адказалі ім, што ніякіх работаў тут не дапусьцяць. Тады рабочыя сыйшлі.*

*Наведаў Курапаты й старшыня БНФ Вінцук Вячорка. Ён сказаў, што ўлады павінны зразумець, што без публічнасьці ім ня ўдасца выканаць лукашэнкавы загад пра чарговую "ударную стройку".*

*Спадарыня Мая Кляшторная, кіраўнічка "Мартыралёгу Беларусі", сказала, што паводле праекту рэканструкцыі дарогі пашырэньне ў бок Курапатаў павінна быць да 2,5 мэтраў. Але няма ніякіх гарантыяў захаваньня пахаваньняў. Будаўнічы майстар, да якога зьвярнулася М.Кляшторная, адказаў ён, што наогул ня мае ніякага канкрэтнага пляну працы.*

*Спадарыня Лідзія Курывіцкая, якая пражыла ўсё жыцьцё побач, у Зялёным Лузе, памятае, як калісьці ўжо будавалася кальцавая дарога: "Я бачыла, як стаяў самасвал, у ім нейкія рэбры, косткі, рассыпаныя чарапы... І другі самасвал стаяў, у яго таксама засыпалі. А куды адвозілі, ня ведаю".*

*Чарговы апытаны будаўнік, Міхаіл з Магілёву, сказаў наступнае: "Многа магілак зачыняюць... Звычайнае пахаваньне, такіх у Беларусі багата... Я не лічу гэта нейкім сьвятым месцам".*

*Актывісты МФ зараз замаўляюць на камбінаце рытуальных паслугаў новыя крыжы, каб устанавіць іх у Курапатах. Гэта праваслаўныя, каталіцкія, а таксама пратэстанцка-рэфармацкія крыжы, якія паўстануць замест сьпілаваных дрэваў.*

*У сядзібе Беларускага Народнага Фронту прайшоў першы ўстаноўчы сход прадстаўнікоў шырокай грамадзкай кааліцыі. Мэта сходу – утварэньне Нацыянальнага Камітэту ў абарону Курапатаў. Сябры арганізацыйнага камітэту паведамілі, што трэба знайсьці нейкае паразуменьне зь мясцовымі ўладамі і з кіраўніцтвам Белгідрадора, які праводзіць непасрэдныя працы. Сталася вядома, быццам кіраўнікі будаўніцтва дамовіліся з прадстаўнікамі Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук Беларусі правесьці дарогу, не закранаючы магілаў...*

*У гэтыя дні на дарозе каля Курапатаў спыняецца шмат машынаў, людзі выказваюць сваю падтрымку абаронцам магілак. Адзін заможны беларус прывез нават харчовую дапамогу для моладзі, якая тут начуе.*

### ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

## Напад на журналіста

***Позна ўвечары 22 верасьня быў моцна зьбіты рэдактар незалежнай газэты "Шклоўскія навіны" Аляксандар Шчарбак.***

Вось што ён сам распавёў карэспандэнту "ТМ":

– Верагодна, за мной сачылі. На вуліцы нікога не было. Раптам аднекуль узьніклі двое мужчынаў у цёмных скураных куртках і пачалі мяне біць. Пры гэтым яны нічога не казалі, нічога не імкнуліся адняць.

На нейкі момант А.Шчарбак згубіў прытомнасьць. Калі невядомыя палічылі сваю задачу выкананай, яны, таксама нічога ня кажучы, моўчкі сыйшлі.

Рэдактар "Шклоўскіх навінаў" зьвярнуўся ў міліцыю з адпаведнай заявай, аднак насамрэч ня мае на яе спадзеву. Ён лічыць, што бандыцкі напад на яго быў зьвязаны з актыўным удзелам рэдакцыйнага калектыву выданьня ў выбарчай кампаніі на баку адзінага кандыдата ад апазыцыі.

Трэба адзначыць, што незарэгістраваная газэта "Шклоўскія навіны" добра вядомая ў раёне. Некалькі разоў А.Шчарбак быў адказчыкам у судзе. Прыкладам, год таму зыск супраць рэдакцыі з нагоды канкрэтнай публікацыі высунуў супрацоўнік афіцыйнай шклоўскай "раёнкі". Рэч была ў тым, што "Шклоўскія навіны" выступілі з крытыкай хвалебных публікацыяў пра нашу сельскую гаспадарку, якія зьмяшчала афіцыйная газэта. Тады суды, якія разглядалі справу – і Шклоўскі, і абласны – прызналі зыск неабгрунтаваным. А напярэдадні выбараў мясцовая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу, па якой разам з актывістамі незарэгістраванага руху "Зубр" праходзіць і рэдактар "Шклоўскіх навінаў". У вынікуператрусу, зробленага міліцыяй у ягонай кватэры, быў канфіскаваны наклад газэты ды рэдакцыйнае абсталяваньне.

Па словах Аляксандра Шчарбака, апошняе здарэньне не паўплывае на ягоную грамадзянскую пазыцыю і журналісцкую працу.

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

◆



Фота Д.Новікава

## Сутнасьці за фармулёўкамі не схаваць

У мінулым нумары мы паведамлялі аб адлічэньні трох студэнтаў Магілёўскага палітэхнікуму, якое адбылося без законных на тое падставаў адразу ж пасьля выбараў. Сапраўднай прычынай іхняга выключэньня, што выглядае цалкам "лягічна", сталася іхняя грамадзкая дэмакратычная дзейнасьць.

Тым часам намесьніца дырэктара тэхнікума па вучэбна-выхаваўчай працы Ала Шусьцік заявіла, што адлічэньне можа адбыцца толькі па рашэньні пэдагагічнага савету, а ён не зьбіраўся. Паводле яе словаў, Зьміцер Букатаў і яшчэ некаторыя навучэнцы самі падалі заявы аб сыходзе з вучылішча ў сувязі з уладкаваньнем на працу, а Каліту і Паўловіча з тэхнікума наогул не адлічалі.

Тым часам, з магілёўскага тэхналягічнага ліцэя за грамадзкую актыўнасьць быў адлічаны Мікалай Ільін. Па нашых зьвестках, некаторых найбольш актыўных старшаклясьнікаў пераводзяць у вячэрнія школы, каб "не разлагалі астатніх школьнікаў".

***Паводле інфармацыі прэс-цэнтру МФ***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Чарговы посьпех спазнаў магілёўскі народны тэатар, які заснаваў і ўзначальвае наш даўні сябра, Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч. Гэтым разам тэатар выступаў адразу на двох фэстывалях у Літве: у Кельме ды Ёнаве. Усюды на беларускіх спэктаклях былі поўныя залі й удзячныя гледачы. Варта нагадаць, што за мяжой мастацкі талент магілёўцаў сустракае больш разуменьня і пашаны, чым у кіраўніцтва нашых "культурных" установаў. На жаль, у нас часьцяком менавіта чыноўнікі спрабуюць выбіраць, што трэба граць тэатру, а што – не... "ТМ" далучаецца да шчырых віншаваньняў калектыву тэатра Ермаловіча й зычыць яму новых творчых посьпехаў!**

**Пасьля "пераможнай выбарчай кампаніі" мясцовыя чыноўнікі зьвярнуліся да разгляду будзённых праблемаў. Нарада аблвыканкаму з прадстаўнікамі гаспадарак вобласьці канстатавала, што вырашчаны ўраджай зьбіраецца марудна. 13 раёнаў з 20-ці ня здолелі здаць дзяржаве замоўленай колькасьці зерня. Дасюль ня ўбраная амаль з паловы палёў бульба й некаторыя іншыя сельгаскультуры. Вінаватае, зразумела, злое надвор'е. Да таго ж, праз тыдзень мэтэаролягі абяцаюць буйныя дажджы. Усё грамчэй чуваць крык начальства "Даёш зерне і бульбу!", на які старшыні калгасаў таксама адказваюць: "Даёш крэдыты і паліва!" Усё больш вострую форму набывае хвароба савецкай вёскі...**

**У чыгуначным шпіталі Магілёва ў 1996 годзе памёр 72-гадовы інвалід. Але на працягу пяці наступных гадоў яго... працягвалі лячыць. Як паказала праверка, нябожчыка пэрыядычна "даглядалі" розныя мэдыкі й выпісвалі яму лекі. Справа ў тым, што інваліды і вэтэраны маюць ільготы пры набыцьці мэдыкамэнтаў. Канкрэтная гэтая гісторыя скончылася пасьля праверкі амбуляторных картаў. А вось ніякіх гарантыяў таго, што "пасьмяротнае лекаваньне" не адбываецца ў якой-небудзь іншай мэдычнай установе, – няма. Бо існаваньне *дэфіцыту* спрыяе вынаходніцтву падобных хітрыкаў. Тут ніякія праверкі сытуацыю ня вылечаць.**

**Магілёўскі гарвыканкам дазволіў падвысіць памеры шкодных выкідаў у навакольнае асяродзьдзе нашай прамысловасьці. Што называецца – прыехалі! Вядома, што горад наш – у ліку самых брудных у краіне. Сусьветны тэлеканал, які займаецца аналізам экалягічнага стану, паказваў на мапе Магілёў, як адзін з цэнтраў найвялікшай забруджанасьці ў Эўропе. Але ў нашай улады ёсьць "загад прэзыдэнта" аб росьце прамысловай вытворчасьці... Хай церпіць і пакутуе прырода ды здароўе народа, чымсьці гарадзкія чыноўнікі, калі, ня дай Божа, ня выканаюць мудры плян!**

**На загад абласнога начальства, у вобласьці на працягу тыдня будзе адзначацца "Дзень маці". Пройдуць шматлікія "традыцыйныя акцыі". Чыноўнікі і набліжаныя да дзяржавы грамадзкія арганізацыі будуць даказваць людзям, наколькі ўлада клапоціцца аб кабетах, якія маюць дзяцей. Самым "перадавым" маці ўручаць, зразумела, грошы і каштоўныя падарункі. Калі ж казаць праўду, то ў нашых сёньняшніх умовах нарадзіць дзіця – гэта зьдзейсьніць подзьвіг. Таму немагчыма наогул казаць пра дзяржаўную падтрымку мацярынства, бо – няма такой падтрымкі. І ўлада пра тое ведае ня горш, чым звычайная беларуская маці.**

**Супрацоўнікі міліцыі сьцьвярджаюць, што жыхары вобласьці сьпіваюцца. За апошнія 9 месяцаў было зафіксавала 2.000 выпадкаў варэньня самагону. Пры гэтым канфіскавана больш за 200 самагонных апаратаў і зьнішчана аж 2.500 літраў цудоўнага "перваку". Увогуле, паводле статыстыкі, кожны жыхар Магілёўшчыны за адзін год спажывае да 30 літраў сьпіртовых напояў: тут мы апярэдзілі іншыя вобласьці. Цяжка пра тое казаць, аднак варта чакаць далейшага росту гэтых жахлівых лічбаў і, адпаведна, – зламаных жыцьцяў нашых суайчыньнікаў.**

***Сустрэнемся праз тыдзень.***
***Сымон Глазштэйн.***

# Змова, што прывяла да фарсу

***Кіраўнікі грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне" падвялі вынікі назіраньня за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі. На іхную думку, каля 30% галасоў, якія нібыта былі пададзеныя за Лукашэнку, – гэта фальсыфікат.***

Прадстаўнікі "Незалежнага назіраньня" працягваюць зьбіраць, упарадкоўваць і аналізаваць інфармацыю ад каардынатараў і назіральнікаў з рэгіёнаў. І хаця гэтая праца яшчэ ня скончаная, яны лічаць, што й апрацаваная ўжо частка інфармацыі (з 70% выбарчых участкаў) дае рэальную карціну пра маштабы фальсыфікацыяў, зьдзейсьненых уладамі.

Улады не давалі назіральнікам зьвестак пра тое, колькі адсоткаў выбарцаў прагаласавалі датэрмінова, а колькі – 9 верасьня. Назіральнікаў выдалялі з участкаў, былі зафіксаваныя шматлікія факты ўскрыцьця выбарчых скрыняў і г.д. Тым ня менш, назіральнікам на гарадзкіх участках удавалася атрымаць неабходную інфармацыю пра датэрміновае галасаваньне. Паводле падлікаў каардынатара "Незалежнага назіраньня" Уладзімера Гудзеева, агулам па краіне ў датэрміновым галасаваньні прынялі ўдзел каля 23% выбарцаў. Аднак гэтая лічба ня ёсьць канчатковай, бо ўва многіх сельскіх раёнах (напрыклад, Дубровенскім, Клецкім ды іншых) датэрмінова прагаласавалі больш за 50% выбарцаў.

Таму кіраўнікі назіраньня гавораць, што сапраўдная лічба тых, хто прагаласаваў датэрмінова, можа сягаць 30%. Пераважная большасьць гэтых галасоў (да 95%) была нібыта за Лукашэнку, аднак 9 верасьня на гэтых жа участках галасоў за Лукашэнку і Ганчарыка было пададзена прыкладна пароўну. Былі таксама зафіксаваныя шматлікія факты ўкідваньня фальшывых бюлетэняў, фальсыфікацыі пачас падліку галасоў у ноч на 10-е верасьня, заніжэньня колькасьці выбарцаў у сьпісах для галасаваньня...

Такім чынам, незалежныя назіральнікі зрабілі выснову, што гэтае галасаваньне было не сапраўднымі выбарамі, а фарсам. "Фальсыфікацыі, якія праводзіліся ў Беларусі падчас гэтых выбараў, былі масавымі. У іх удзельнічалі тысячы людзей", – падсумаваў выснову назіральнікаў адзін з каардынатараў гэтай грамадзкай ініцыятывы Алесь Бяляцкі.

Старшыня БХК Таццяна Працька ў сваю чаргу паведаміла наступнае: "У нас ёсьць зьвесткі, што людзі, якія ўдзельнічалі ў фальсыфікацыі выбараў, якія зрабілі вялікую шкоду нашай нацыянальнай бясьпецы, нашым нацыянальным інтарэсам, ня толькі ня будуць пакараныя, але наадварот – будуць грашыма ўзнагароджаныя ад імя дзяржавы".

А вось чаго пакуль бракуе назіральнікам, дык гэта канкрэтных асобаў, якія не пабаяліся б пацьвердзіць свой непасрэдны ўдзел у фальсыфікацыі вынікаў выбараў. Зразумела, што гэтыя людзі будуць маўчаць. Між тым цікавыя сьведчаньні пра беларускія выбарчыя падтасоўкі надрукавала расейская газэта *"Московский комсомолец"*. Так, адна зь сяб-раў выбарчай камісіі Савецкага раёну Менску (на жаль, таксама бяз прозьвішча) прызналася, што напярэдадні дня галасаваньня іх інструктавалі, каб назіральнікаў не дапускаць да сталоў, за якімі падлічваліся бюлетэні. Мы, паведаміла гэтая жанчына, "раскладвалі бюлетэні ў тры кучкі – нягледзячы, за каго яны, фармавалі маленькую кучку за Гайдукевіча, сярэднюю – за Ганчарыка, і большую – за Лукашэнку. Мы былі папярэджаныя, каб заўсёды кучка Лукашэнкі была на траціну большай!"...

Пра "дзівосы" беларускага галасаваньня распавёў у інтэрвію гэтай жа газэце і дэпутат Дзяржаўнай Думы РФ Вадзім Бондар, які быў назіральнікам. Яму ўдалося паназіраць за падлікам галасоў на менскім участку №13. Пасьля высьветлілася, што дадзеныя, якія лічыліся пры ім, істотна розьняцца ад афіцыйных. У той момант, калі Бондар сачыў за падлікам, за Лукашэнку было 542 бюлетэні, за Ганчарыка – 841. Але пасьля таго, як назіральнік "пакінуў пост", расклад радыкальна памяняўся. Багата падобных фактаў расейскі дэпутат зафіксаваў і ў Менску, і ў Гарадзенскай вобласьці.

Прадстаўнікі БХК і "Незалежнага назіраньня" накіравалі скаргі ў Вярхоўны суд Беларусі з патрабаваньнем ануляваць вынікі прэзыдэнцкіх выбараў.

***Альгерд НЕВЯРОЎСКІ***



## Слухай сваё і вер сабе!

Малады Фронт аб'явіў аб правядзеньні з 1-га кастрычніка курсаў па падрыхтоўцы "ды-джэяў Адраджэньня".

У праграме трохмесячных бясплатных курсаў – падрыхтоўка людзей ва ўзросце ад 15-ці да 25-ці гадоў па пытаньнях шоў-бізнэсу і псыхалёгіі, Public Relations і масавай культуры, музыкі і нацыянальнай ідэі. Па выніках курсаў зь ліку прыкладна 70-ці удзельнікаў, адабраных з дапамогай тэстаў, конкурсаў і рэйтынгаў, будуць вызначаны 24 ды-джэі, якія атрымаюць адпаведныя сэртыфікаты. Яны будуць мець веды й навыкі для правядзеньня шоў, дыскатэкаў, працы у тэле- і радыёэфіры, распрацоўцы ўласных праектаў у гэтых прафэсыйных сфэрах, што маюць найбольшы ўплыў на моладзь. Як адзначаецца ў прэсрэлізе, задача курсаў – падрыхтаваць людзей, здольных быць лідэрамі нацыянальнага Адраджэньня ў моладзевым асяродзьдзі.

***Паводле БЕЛАПАН***

## Адносіны не памяняліся

***14-га верасьня ў Брусэлі кіраўніцтва Эўрапейскага Зьвязу прыняло адмысловую заяву ў справе прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Друкуем яе зь нязначнымі скарачэньнямі.***

У заяве гаворыцца: "Эўрапейскі Зьвяз далучаецца да заключэньня, зробленага місіяй міжнароднага абмежаванага назіраньня на выбарах прэзыдэнта Беларусі 9-га верасьня й выказвае моцнае шкадаваньне з прычыны таго, што гэтыя выбары не адпавядалі дэмакратычным стандартам АБСЭ. ЭўраЗьвяз, у прыватнасьці, выказвае шкадаваньне ў сувязі зь перасьледам прадстаўнікоў апазыцыі, унутраных назіральнікаў, незалежных мэдыяў і няўрадавых арганізацыяў. ЭўраЗьвяз заклікае ўлады Беларусі паважаць іх правы.

ЭўраЗьвяз мае намер дзейнічаць зыходзячы з таго, што разьвіцьцё адносінаў зь Беларусяй у вызначальнай ступені залежыць ад павагі да правоў чалавека і прагрэсу ў дэмакратызацыі краіны. У гэтым кантэксьце ЭўраЗьвяз вітае праявы ў Беларусі пэўнага плюралізму і грамадзянскай супольнасьці, якая імкнецца да дэмакратычных зьменаў, што адзначыла міжнародная місія назіральнікаў.

На жаль, улады Беларусі ня выкарысталі магчымасьці, прадастаўленыя выбарамі, каб павесьці сваю краіну шляхам дэмакратыі.

ЭўраЗьвяз будзе працягваць падтрымку дэмакратычных зьменаў і будзе праводзіць кансультацыі з прадстаўнікамі ўсіх палітычных сілаў Беларусі.

Да заявы далучыліся асацыяваныя да Зьвязу краіны Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, Кіпр, Мальта і Турэччына, а таксама краіны-сябры эканамічных арганізацыяў ЭўраЗьвязу.

***Паводле інф. агенцыяў***

МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Прысутным пашанцавала

Вялікотным чытачам „Тыднёвіка магілёўскага" жадаю тугі за верай у вечнасьць Беларусі. Жыве Беларусь!
Рыгор Барадулін
25.09.01
Магілёў

У аўторак, 25-га верасьня, у абласным цэнтры адбылася сустрэча Рыгора Барадуліна, якога суправаджаў кампазытар і сьпявак Алесь Камоцкі, з навучэнцамі вучэльні культуры. Прыемная неспадзяванка напаткала тых, каму выпала пачуць разам Паэта і Музыку.

Актавая заля ўстановы была запоўненая моладзю, якая выявіла шчырую павагу да аднаго з найлепшых паэтаў краіны й актыўнага рупліўцы на ніве патрыятызму. Пра гэта сьведчылі пытаньні маладых да дзядзькі Рыгора – аб літаратуры і мастацтве, аб ягонай і сваёй творчасьці, аб палітыцы і пэрспэктывах беларускага нацыянальнага разьвіцьця.

Цёпла віталі прысутныя Алеся Камоцкага, які сьпяваў пад акампанімэнт уласнай гітары Барадулінскія баляды.

Увечары паэт і музыка правялі сустрэчу з магілёўскай інтэлігенцыяй у больш вузкім коле й пры неафіцыйным аздабленьні. Іх можна было слухаць бясконца...

На разьвітаньне з Магілёвам, паважаючы чытачоў нашай газэты, госьці пакінулі на ўспамін асабістыя аўтографы, якія мы тут падаем разам зь вершам Рыгора Барадуліна.

**Ліст дваццаць чацьверты**

*А народу болей, чым людзей.*
*Ды яно ня толькі на базары.*
*Дзе яны, прасьветленыя*
*твары,*
*Душы годныя*
*для добрых дзей?*
*Год любы ўраджайны*
*на народ.*
*На людзей хапае недароду.*
*Так і йдзе ўсё церазь*
*пень-калоду.*
*Ружай хоча быць*
*калючы дрот.*
*Некалі налюдзіцца народ,*
*Людна і на гэтым*
*сьвеце стане.*
*Выясьніцца сонца.*
*Дзень настане.*
*А пакуль усё наадварот.*

**1999г. З кнігі "Лісты ў Хельсінкі"**

Жадаю чытачам „Тыднёвіка" здароўя ўва ўсіх памкненьнях яго праўдах
Алесь

# Разбураюць храм

***У цэнтры Менску, па вуліцы Дзімітрава, працягваецца зруйнаваньне будынку старадаўняй сынагогі.***

Спробы прадстаўнікоў грамадзкасьці адстаяць гэты помнік гісторыі і культуры пакуль выніку не далі. Двохпавярховы будынак з цэглы быў пабудаваны ў 70-я гады XIX стагодзьдзя на сродкі менскай габрэйскай грамады. У часе пасьля апошняй вайны ў ім разьмяшчаліся творчыя майстэрні вядомых беларускіх мастакоў і скульптараў. Сёлета ўлетку вакол дому зьявілася будаўнічая агароджа з надпісам, што на гэтым месцы будзе пабудаваны чатырохпавярховы жылы дом з падземным гаражом.

Працы распачаліся 21-га верасьня. Як паведаміў асьпірант Рэспубліканскага інстытуту вышэйшай школы пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце Вольф Рубінчык, раніцай 25 верасьня рабочыя ЗАТ "Камкон" з дапамогай тэхнікі пачалі разбураць сьцены будынка. Ім паспрабаваў перашкодзіць прэзыдэнт Сусьветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў Якаў Гутман, аднак яго вывелі за тэрыторыю будоўлі. Разбурэньню будынка ня здолеў перашкодзіць нават старшыня Камітэту па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Зьміцер Бубноўскі, які асабіста прывез будаўнікам прадпісаньне аб спыненьні работ.

Побач зь іншым будынкам – Менгарвыканкаму, раніцай 26-га прайшоў несанкцыянаваны пікет пратэсту супраць вандалізму. Спадары Я.Гутман і В.Рубінчык трымалі плякат з тэкстам: "Ганьба! Разбурэньне храму – разбурэньне сьвету. Людзі, ратуйце менскую сынагогу на Дзімітрава, 3 – помнік габрэйскай і беларускай культуры!". Мінакі атрымоўвалі ўлёткі, у якіх паведамлялася аб тым, што 25 верасьня ў Менску пачалося руйнаваньне будынку былой сынагогі, які ў 2000 годзе быў ўнесены ў Дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Рэспублікі Беларусі. Тыя, хто даў дазвол на зруйнаваньне, акрэсьленыя ва ўлётцы "беларускімі талібамі".

Супрацоўнікі міліцыі на чале з намесьнікам начальніка Маскоўскага РУУС М.Кудзінавым спынілі пікет і даставілі Гутмана і Рубінчыка ў райсуд. Аднак паколькі затрыманыя рашуча запатрабавалі прысутнасьці адваката, судзьдзя М.Фалько перанес слуханьне справы на 2-ое кастрычніка.

Такім чынам, на момант выхаду "ТМ" справа пакуль ня ясная. Можа стацца, аднак, што калі газэта пабачыць сьвет, яшчэ аднаго – чарговага! – зь беларускіх гісторыка-культурных помнікаў на гэтым сьвеце ўжо ня будзе.

***Паводле БЕЛАПАН***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ



### ...з Крычава

***Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў пракуратура раёну пачала допыты супрацоўнікаў мясцовай незалежнай газэты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, Вадзіма Сьцефаненкі й Мікалая Маторанкі.***

У дачыненьні да гэтых трох журналістаў была ўзноўленая крымінальная справа па абвінавачваньні ў незаконным затрыманьні супрацоўніка міліцыі. Гэтае абсурднае абвінавачваньне было высунутае некалькі месяцаў таму, калі міліцыянты захапілі крычаўскі офіс выбарчага штабу Сямёна Домаша й канфіскавалі ўсю аргтэхніку газэты "Вольны горад".

***Андрэй КУЗЬМІН***



### ...з Бабруйску

***Чатыры жанчыны, якія ў жніўні аб'яўлялі й трымалі галадоўку пратэсту, атрымалі позвы ў суд.***

Суд павінен адбыцца сёньня. Нагадаем, што галадоўку жанчыны абвесьцілі, каб дамагчыся рэалізацыі сваіх правоў на атрыманьне жытла й працаўладкаваньне (гл "ТМ" №№7, 8.). Пазьней, у сувязі з пагаршэньнем стану здароўя, галадоўшчыцы трапілі ў шпіталь. У суд жа зьвярнулася мясцовая міліцыя, якая кваліфікавала дзеяньні жанчын як несанкцыянаваны пікет...

***BARC***

УЗДАГОН ПЛЭНЭРУ ВЕРАБ'ЁВА

# Усё застаецца людзям

Мінулай пятніцай, як мы падавалі гэта ў анонсавай інфармацыі папярэдняга нумару "ТМ", адбылася імпрэза перадачы магілёўскім скульптарам Андрэем Вераб'ёвым у падарунак унівэрсытэту, ды й гораду, больш за 10 сваіх твораў. Імпрэза, названая аўтарам "Плэнэрам для аднаго", сабрала на ўнівэрсытэцкім сквэры па вуліцы Касманаўтаў некалькі дзясяткаў чалавек, якія сталіся сьведкамі нараджэньня ў нас яшчэ аднаго месца, аздобленага мастацтвам. Андрэй Вераб'ёў правёў з прысутнымі на імпрэзе кароткую, але ёмістую і шчырую па інтымна-мастацкіх прызнаньнях экскурсію, у часе якой расправёў пра тое, як нараджалася кожная скульптурная ідэя. Магчыма, што выкліканыя скульптурамі думкі не ўва ўсім супадуць з тымі, што перажываў падчас творчасьці сам мастак. Але мастацтва найчасьцей задавальняецца ўжо тым фактам, што здольнае выклікаць у чалавека пачуцьці, якія абмінаюць яго ў звычайна-будзённым стане...

З фотарэпартажу ***А.Ліціна*** аб Вераб'ёўскім плэнэры мы выбралі асноўныя эпізоды імпрэзы. А кожны цяпер можа сам зьвярнуцца да знаёмства з новым магілёўскім "Скульптурным сквэрам імя Андрэя Вераб'ёва". Плэнэр для аднаго скончыўся. Цяпер усё належыць нам...







Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 13. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 27.09.2001 г. а 17.05.